

Гісторыя,
у якой
Мішутка вучыцца
быць
самастойным,
сустракае гасьцей
і частуе іх гарбатай,
а Зайка
распавядае,
як у лесе
ліса пакрыўдзіла яго.







Надышла раніца. Хто прачнуўся-пацягнуўся? Гэта Міша прачнуўся. Міша пацягнуўся. *Пацягніцеся з вялікай асалодай і папрасіце дзіцянятку паўтарыць.* Вось так! У Мішы коўдра блакітная, падушка... ружовая ложачак драўляны. Пад ложачкам гаршчок, каля ложку столік, на століку гадзіньнік. Пакажы яго. «Цік-так, дзінь-дон, - кажа гадзіньнічак. - Трэба мыцца, трэба апранацца». *Назавіце прадметы на маленькіх малюначках і знайдзіце гэты малюнкі на вялікай ілюстрацыі.*



Мішка зьняў піжамку, заправіў ложачак, схадзіў на гаршчок, а цяпер мыецца - буль-буль вадзіца. У яго жоўтая зубная шчотка. Пакажы Мішы, як трэба чысьціць зубкі. Малайчына. Ты ўсё зразумеў, Міша? А вось глядзі, зараз *імя дзіцёнка* пакажа табе, як правільна мыць рукі. *Хай маляня пакажа.* Памыецца Міша, вытрэцца рушніком, будзе чысты-чысты.

Памыўся Міша і сьнедае.
Ён сядзіць на нізкім услончыку,
за круглым сталом.







Паглядзі як
ён добра есьць
акуратна,з апэтытам.
Разгледзь і назаві ўсё,
што стаіць на стале.
Што на малюначку
чырвонага колеру?
Жоўтага?
Знайдзі гадзіньнік.
А хто сядзіць каля стала?



Паглядзеў Міша ў вакенца і вырашыў пайсьці пагуляць. Трэба правільна апрануцца, каб было ні сьпякотна, ні халадно. Бачыш, Мішутка абраў чаравічкі, а ня боты? Здагадайся, якое на вуліцы надвор'е?

*Паразмаўляйце пра тое, як людзі апранаюцца ў розныя поры году. Не забывайце зьвяртаць увагу маляняці на маленькія малюначкі.*



Усе выйшлі на вуліцу. І Мішка. І котачка. Добрае надвор'е, шпацыраваць адно задавальненьне. Чым ты любіш займацца на шпацыры? *Дачакайцеся поўнага адказу дзіцяці.* А Міша жадае зьляпіць кулічык.

У вялікае вядро пясок зручней насыпаць вялікай рыдлёўкай. А ў маленькую формачку?

Пагуляў Міша, зьляпіў і вялікі кулічык, і маленькі піражок котачцы. А потым пайшоў дадому.



Вярнуўся Міша са шпацыру, зьняў куртачку і чаравічкі. Трэба хатняе адзеньне надзець. Адзеньне ў шафе. Вось якая шафа ў Мішавай хаце. Колькі ў ёй паліц! І на вешалках рэчы  вісяць!

*Паразмаўляйце з дзіцём пра тое, што апране Міша, а што не апране, пра адзеньне наогул. Падыдзіце да сваёй шафы, хай дзіця пакажа, што яму падабаецца зь ягонай адзежы.*



Пераапрануўся Міша, паглядзеў па баках. Ой, якая ў хаце бязладзіца! Трэба прыбрацца, ці ня так? Апрануў Міша фартук, узяў у рукі... што? Так, пыласмок. Пакажы, як ён пыласосіць.

*Калі дзіцяці цяжка называць рэчы на маленькіх малюнках, то пытайце: «Дзе губка, венік?», а дзіця хай паказвае пальчыкам. Потым папрасіце знайсьці гэтыя рэчы на ілюстрацыі.*



Міша накрывае на стол. Хутка прыйдуць яго сябры, Вавёрачка ды Зайка, будуць піць гарбату. Што трэба прыгатаваць яшчэ да гарбаты?

*Разгледзьце маленькія малюначкі, высьветліце, ці ўсё Мішка прынёс для сябе, Вавёрачкі ды Зайкі (тры кубкі, тры лыжкі, тры відэльцы, тры талеркі).*

З чым сябры будуць піць гарбату? Правільна, з прыгожым смачным тортам. А Зайка распавядзе лясную казку.Гэта казка пра тое, як ліса зайца з хаты выгнала і што з гэтага атрымалася. Жадаеш паслухаць такую казку? Малайчына. Перагортвай старонку.